

# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Бясплатны дадатак да часопіса «Маладосць» № 10 1963 г.

У гэтым выпуску настаўнікі, піянерважатыя, камсамольскія актывісты знойдуць матэрыял для школьнай самадзейнасці.

Х. МАЛЬЦІНСКІ, Р. РЭЛЕС

# АДНААКТОВЫЯ П'ЕСЫ

## БАБУЛЯ ПАМАГЛА

**Дзеючыя асобы:**

Міця.
Васілёк.
Жорка.
Галя.
Жоркава бабуля.

**Сцэнка першая**

Дзялянка. Ляжаць нераспілаваныя дровы. Справа — будан, злева — пілуюць дровы на пару Міця з Галяй, Васілёк з Жоркам.

Міця. Добра папрацуем, да вечара скончым.

Васіль (*Жорку*). Ну колькі табе гаварыць: цягні пілу, а не вісні на ёй! Які няўважлівы!

Жорка. Не распускай язык! Сам няўважлівы. У каго пераэкзаменоўка па алгебры, га?

Галя. Дык і што? Ён стараўся як мог. Алгебра яму цяжка даецца.

Жорка. Затое я плаваю.

Міця. Усё жыццё ў басейнах не праплаваеш. Спорт адно, а работа — другое.

Галя. І яшчэ давядзецца, нябось, дровы калоць.

Жорка. Дык і што!

Васілёк. А ты цяпер вось давай... Зімой захочаш, нябось, каб у класе цёпла было. Дык пілуй. Дасі табе палёгку...

Пілуюць. Чуваць рокат грузавіка.

Міця. Малайцы! Як скора вярнуліся. *(Да Васілька і Галі.)* Хадзем грузіць. А ты, Жорка, аставайся тут. Распалі агонь. Абед варыць будзем. *(Ідуць.)*

Жорка *(глядзіць на руку)*. Мазоль гэта ці не мазоль? *(Ляніва пацепваецца, збірае трэскі. Лажыцца на траву, закладвае рукі за галаву.)* Як жа мне пайсці сёння ў басейн? Лепшыя плывуны спаборнічаюць. А папрасі, каб адпусцілі — ого! А мне хоць бы на дзве гадзіны. Што тут прыдумаць? Не можа быць, каб без мяне спаборніцтва пачалі.

Галя *(прыбягае)*. Так і ведала. Хлопцы паўмашыны нагрузілі, а ты?

Жорка. Дыхнуць не даюць. *(Устае, паказвае Галі руку.)* На, глядзі! Мазоль!

Галя *(глядзіць. Іранічна)*. Мазоль... Смала прыстала. *(Сцірае смалу.)* Бачыш?

Жорка *(са злосцю)*. Навошта сцёрла?

Галя збірае трэскі.

Жорка *(паказвае)*. Сюды нясі.

Галя. Нездарма Міця мяне паслаў сюды. Як ведаў. Ты, можа, бульбы наабіраеш?

Жорка. Не, я лепш распалю агонь. У мяне запалкі.

Галя. Скажы, Жорка, каб усе былі такія, як ты, што б тады?

Вяртаюцца Міця з Васільком.

Жорка *(да Галі)*. Не ведаю, што было б тады, а ведаю, што мне трэба ісці. Міця, га, Міця!

Міця. Чаго ты?

Жорка. Мне трэба на дзве гадзіны пайсці.

Міця. Пайсці? Што ты! А з кім Васілёк пілаваць будзе?

Жорка. Мая бабуля хворая. Не ўстае. У дванаццаць гадзін трэба забраць лякарства. Як сабе хочаце.

Васілёк. Чаго ж ты маўчаў?

Жорка. Не хацеў вам настрой псаваць.



Міця. Калі за лякарствам, дык ідзі. Нешта прыдумаем. *(Да Васі.)* Мы з табой пілаваць будзем, а Галя будзе абед гатаваць.

Васілёк. Цяпер да вечара работу не скончым...

Жорка раздумвае.

Міця *(да Жоркі)*. Ну, чаго, як пень, стаў? Бяжы! Толькі глядзі: праз дзве гадзіны каб быў тут!

Жорка. Прыйду. *(Задумаўшыся, ідзе.)*

Міця. Нічога, Васілёк, пастараемся. Да вечара горы перавярнуць можна.

Дзеці бяруцца за работу. Падыходзіць бабуля з кошыкам у адной руцэ і слоікам у другой. Азіраецца, прыглядаецца да дзяцей.

Галя. Бабуля, каго шукаеце?

Бабуля. Жорку Парэчкіна, унука. Вось ужо на трэцяй дзялянцы шукаю. *(Хлопцы пераглядваюцца.)*

Міця. Ёсць такі. У нашым звяне.

Бабуля *(садзіцца)*. Дзякаваць богу! *(Ставіць кошык, а слоік трымае ў руках.)* Ох, ледзь дайшла... Дроў, дзеткі мае, напілавалі вы нішто сабе. Радуюся за свайго ўнука. Працуе разам з вамі. А дома, дык не вельмі каб да чаго прывучыць. Усё па басейнах. Але калі тут стараецца, дык малайчына. За тое яму і бліноў са смятанай прынесла... А дзе ж ён?

Міця *(пашаптаўся з Васільком, Галяй)*. Жорка дровы павёз. З машынай ён. Хутка вернецца. Адпачніце, бабуля.

Бабуля. Дзякуй, дзеткі. Баюся, бліны астынуць. Любіць унук гарачыя. Я чыгунок добра ўкруціла... А Жорка, значыць, з вамі... Пілаваць навучыўся? *(Паказвае рукамі.)* А каб дома, дык не сказаць...

Галя. Адпачніце, бабуля. У нас у будане сена ёсць. Паляжыце. Кіламетры чатыры будзе ад горада...

Бабуля. Дзякуй, дзеткі... Каб толькі бліны каляныя не сталі.

Галя. У будане ватоўка ёсць, укруціць можна.

Бабуля. А дзе смятану паставіць?

Галя. А ў будане? Не бойцеся, бабуля, тут катоў няма.

Ідуць з Галяй да будана.

Васілёк *(абураны)*. Вось і павер чалавеку!..

М і ц я. Не магу цярпець манюк!

Г а л я (вяртаецца). Добрая бабуля. Хай нічога не ведае... Цішэй, хлопцы. Хай засне.

З а с л о н а.

**Сцэнка другая**

Тая ж дзялянка. Д з е ц і абедаюць.

В а с і л ё к. А гарачыя бліны ніяк Жорку не дачакаюцца.

Г а л я. Нешта яго доўга няма.

М і ц я. Прыляціць.

В а с і л ё к. Каб прыйшоў, дык хутчэй скончылі б. Работы гадзіны на тры.

Г а л я. Ад яго карысці, як ад казла малака. *(На дыбачках падыходзіць да будана, прыслухоўваецца.)* Спіць... Змарылася...

Прыбягае задыханы Ж о р к а.

Ж о р к а. Сказаў: праз дзве гадзіны. Я чалавек слова. *(Усе смяюцца.)*

Г а л я. Цішэй, хлопцы!

М і ц я. А як, Жорка, здароўе тваёй бабулі?

Ж о р к а. Лепш стала. *(Усе смяюцца.)*

В а с і л ё к. Лякарства ёй занёс?

Ж о р к а. Пытаешся! *(Усе смяюцца.)*

Г а л я. Цішэй, хлопцы!

М і ц я *(да Жоркі)*. Ты, мусіць, нічога не еў. Садзіся.

Ж о р к а. Ага, прагаладаўся. *(Садзіцца.)*

В а с і л ё к. Чаму ж дома не паеў?

Г а л я. На што твая бабуля хварэе?

Ж о р к а. Што вы ўсё пра маю бабулю? *(Гучней.)* Бабуля, бабуля...

З будана чуецца: «Я тут, унучак!»
Ж о р к а ў здзіўленні азіраецца. З будана выходзіць б а б у л я.
У адной руцэ чыгунок, у другой — слоік.

Б а б у л я. Пакаштуй, унучак, гарачых блінкоў.

Ж о р к а ўтаропіўся вачамі ў бабулю.

М і ц я. Казалі ж вам, бабуля, што дровы павёз і вернецца. Сказаў, што праз дзве гадзіны будзе, і прыйшоў. Ён чалавек слова. Ніколі не зманіць.



Д з е ц і ледзь стрымліваюць смех.

Б а б у л я. Прыемна чуць такое пра яго. *(Раскручвае анучкі з чыгуна.)* Еж, унучак. Нябось, напрацаваўся. І таварышаў пачастуй. Я блінцоў многа напякла.

В а с і л ё к. Дзякуй, бабуля. Няхай Жорка есць. Напрацаваўся...

Б а б у л я. Ды не, дзеткі, не. Разам працавалі, разам і ежце. *(Падае дзецям бліны.)* Ды ў смятанку мачайце, усім хопіць.

Ж о р к а *(ледзь не плача)*. І чаго ты, бабуля, прыйшла?..

З а с л о н а.

# ГРОНКА ВІНАГРАДУ

**Дзеючыя асобы:**

Т о л і к  Г у с е ў — вучань шостага класа.
В е р а — старшыня савета дружыны.
В а л о д з я — кіраўнік гуртка юннатаў.
С е н я  Б а р а б а н а ў — фатограф-аматар.
Ю р к а  Ш э р ш а н ь, М а й я — піянеры.
А л я к с е й  М і т р а ф а н а в і ч — Толікаў бацька.
Н і н а  Ф ё д а р а ў н а — Толікава маці.
Л і д а — Толікава сястра.

**Сцэнка першая**

Школьны двор. На лаўцы — клетка з трусянятамі. Вакол яе д з е ц і.

В а л о д з я *(паказвае на трусянят)*. Во гэта — Белка, а во гэта — Стрэлка.

М а й я. А як ты іх распазнаеш? Яны ж зусім аднолькавыя. Белыя — і ўсё. Хоць бы плямка дзе.

В а л о д з я. Вельмі проста: Белка міргае правым вокам, а Стрэлка — левым.

В е р а. Смяешся, Валодзя...

Майя дастае дзве цукеркі і хоча падысці да клеткі.

Валодзя. Ніякіх цукерак. Катэгарычна забараняю!
Майя. Дык гэта ж «Гусіныя лапкі», мае любімыя!..
Валодзя. Трусяняты — не пестуны!
Юрка *(да Майі)*. Давай мне гэтыя «лапкі»!..
Майя. Я думала: трусянятам...
Юрка. Яны не ядуць. Чуеш, што Валодзя кажа? Ці табе не ўсё адно: я з'ем або трусяняты?
Валодзя. Аддай Юрку. Калі просіць, не будзь скнарай.
Майя. На! *(Аддае цукеркі.)*
Вера. Булачкі з маслам ядуць?
Валодзя. Не любяць. І наогул, яны паснедалі.
Вера. А чым карміць будзем?
Валодзя *(дастае з сумкі сшытак)*. Тут запісаны ўвесь іх рацыён.
Толік. А вінаград трусяняты ядуць?
Валодзя. Які вінаград? Выдумляеш нешта.
Толік *(паказвае гронку вінаграду)*. Чорны салодкі.
Юрка. Дзе ты ўзяў? Купіў?
Толік. Зрэзаў у нашым вінаградніку.
Вера. Дык гэта не крымскі вінаград?
Толік. Кажу вам, з нашага вінаградніка. Чорны салодкі, беларускі. Сам вырасціў, калі хочаце ведаць. Пакаштуйце.

Дзеці частуюцца, хваляць.

Вера. Ты, Толік, сам яго вырасціў? Ты мічурынец-аматар?
Толік. Калі хочаш, так... Што тут асаблівага?
Вера. А мы і не ведалі, што ў нашай дружыне такі ёсць. Мы думалі, што ты так сабе, Толік Гусеў. Малайчына, Толік! А ты, Валодзя, кіруеш гуртком юннатаў і нават не ведаеш, што такія хлопцы ў нашай дружыне.
Валодзя. На лбе ў яго не напісана. А Толік сам нічога не гаварыў.
Толік. А навошта выхваляцца?
Юрка. Я і не рассмакаваў, як трэба, які ён, гэты вінаград. На адзін зуб узяў, ды і то на хворы. Дай яшчэ.
Вера. Не давай, Толік. Мы цябе зараз сфатаграфуем з гронкай вінаграду. А здымак—у газету! Няхай усе ведаюць, якая ў нас дружына. *(Крычыць.)* Сеня Барабанаў! Барабанаў, хутчэй сюды!



Паяўляецца Барабанаў з фотаапаратам на грудзях

Сеня. Не стану зноў гэтых трусянят фатаграфаваць. Надакучыла.
Валодзя. Я цябе і не прашу. У цябе не трусяняты выходзяць, а малпы. Фатограф! Носіцца з фотаапаратам, як Саўка з дудой.
Вера. Пачакай, Валодзя, не перашкаджай. Тут справа сур'ёзная... Паглядзі, Сеня, што Толік прынёс. Ён, аказваецца, вінаград даглядае. Сам вырасціў. Чорны салодкі, кажа.
Сеня. Вось гэта знаходка! Сапраўды будзе эцюд. Станавіся, Толік. Трымай свой вінаград.
Юрка. Здымі лепш, як я гэты вінаград каштую... Дай, Толік! *(Працягвае руку.)*
Сеня. Не перашкаджай... Не ведаў я, Толік, даўно б цябе пстрыкнуў.
Валодзя. Толькі без трусянят і без мяне. *(Збірае клетку і адыходзіць.)*
Сеня. Каціся! Сядай, Толік, у цэнтр. Гронку — вышэй. Вось так. Юрка, далей ад вінаграду! Вера справа, Майя — злева! Вось так. Эцюд выйдзе — закон! На конкурс пашлю. *(Чуецца званок на ўрок.)* Адну секунду! Ціха, не кратацца. *(Пстрыкае.)* Яшчэ раз. *(Пстрыкае.)* Усё.

Дзеці ідуць у клас.

Юрка. А цяпер, Толік, давай свой чорны салодкі.
Вера. Ну і лізун жа ты!

Заслона.

**Сцэнка другая**

Веранда. Аляксей Мітрафанавіч робіць фанерную скрыню. Ніна Фёдараўна выкладае з кошыка на стол вінаградныя гронкі. Ліда, Толікава сястра, за сталом піша.

Ліда. Я не паспяваю, тата...
Аляксей Мітрафанавіч. Добра, пішы... «Дарагі дзядуля! Са знаёмым чалавекам пасылаем табе вінаграду — твайго любімага сорту «Ізабела», а таксама чорнага салодкага.» Пішы далей. «Мы з Лідачкай і маці глядзім, каб вінаграднік добра рос. Твае парады выконваем. Сёлета слупы і калкі для шпалер замянілі новымі, дубовымі, прасмалілі іх.

Пакуль стаяць цёплыя дні. Укрываць на зіму будзем у канцы кастрычніка...» Бадай, усё.

Ніна Фёдараўна. А пра Толіка? Няхай ведае дзед, што нам не памагае. Пра вінаграднік і чуць не хоча.

Аляксей Мітрафанавіч. Навошта псаваць старому настрой?

Ніна Фёдараўна. Напіша ліст. Можа, на Толіка гэта падзейнічае. А то за сваімі гарадкамі нічога не бачыць.

Ліда *(да бацькі)*. Пісаць?

Аляксей Мітрафанавіч. Ну, няхай. Пішы.

Паяўляецца Толік. Левай рукой трымаецца за правую.

Толік. Шэсць партый запар выйграў. Адным махам «змяю» выбіў. «Пісьмо» раскідаў, не прамахнуўся. Во! *(Махае рукой, як бы мерыцца біць па гарадках.)*

Аляксей Мітрафанавіч. А ў нас тут сваё пісьмо. Прачытай, Ліда, апошнія словы...

Ліда *(чытае)*. «Толік нам ў агародзе не памагае. Пра вінаграднік і слухаць не хоча.»

Толік. Але вінаград любіць. Асабліва чорны салодкі. *(Бярэ з кошыка гронку, есць.)* Дай, мама, есці. Праз сорак мінут пачнецца матч. За мной зойдзе мой новы таварыш, Юрка Шэршань.

Ніна Фёдараўна. Дзядулі вінаград пасылаем. Навошта бярэш?!

Толік. Дык сказалі б. *(Кладзе гронку назад.)* А ты, Лідка, пляткарка.

Аляксей Мітрафанавіч. Праўду піша. Вельмі ты ўжо распусціўся, Толік. Глядзі ў мяне. Цярплю, цярплю, але да пары. *(Да маці.)* Абедаць разам будзем, калі пасылку запакуем. Сёння нядзеля. Спяшацца няма куды.

Паяўляецца Сеня Барабанаў з фотаапаратам на грудзях.

Сеня. Дзень добры! Гэта я, фатограф Сеня Барабанаў. *(Убачыў Толіка.)* Я да цябе, Толік. Ледзь знайшоў ваш дом... Разумееш, толькі што атрымаў пісьмо з рэдакцыі. Здымак прынялі. Эцюд спадабаўся. Усё добра, але з-за дробязі затрымка: вінаград невыразна выйшаў. Пішуць, што ягады на шышкі падобны. Глупства, вядома. Але спрачацца не будзеш. Пераздыму. Давай, Толік, хутчэй станавіся да вінаградніку. *(Выглядае, дзе лепш здымаць.)* Сёння ж праяўлю, надрукую і падпішу: «Толік Гусеў, вінаградар-аматар здымае ўраджай. Эцюд фотааматара Сені Барабанава.»



Бацька, маці і Ліда пазіраюць адно на аднаго, потым на Толіка. Толік разгублены. Аляксей Мітрафанавіч падыходзіць да Сені.

Аляксей Мітрафанавіч. Пачакай, галубок. За што гэта нашаму Толіку такі гонар выпаў?

Сеня. Як за што? Ды ён жа адзіны вінаградар у нашай дружыне. Уся школа ведае.

Ніна Фёдараўна. Якім чынам пра гэта даведаліся?

Толік. Я іх вінаградам пачаставаў.

Сеня. Зараз сонца выгляне. Станавіся хутчэй сюды. *(Паказвае.)* І ні з месца...

Аляксей Мітрафанавіч. Не спяшайся, шаноўны фотааматар. Раней за бацьку ў пекла не лезь.

Чуваць стук у весніцы, дзіцячыя галасы: «Можна? Можна?»

Ніна Фёдараўна. Калі ласка, заходзьце!

Заходзяць Вера і Майя.

Вера і Майя. Дзень добры!

Усе *(акрамя Толіка)*. Дзень добры!

Вера. Просім прабачэння, што вам перашкодзілі. Мы да цябе, Толік. Учора я была ў Доме піянераў, расказала пра цябе кіраўніку юннатаў. Ён вельмі ўзрадаваўся. Сёння там збіраюцца ўсе. Цябе, Толік, запрашаюць. Ты павінен падзяліцца сваім вопытам, расказаць, як вырошчваў вінаград. Няхай ведаюць, якія піянеры ў нашай дружыне.

Ліда. Толік, і ты пойдзеш?

Аляксей Мітрафанавіч. Дык што ж, сынок? Славутасцю стаў? Знатным мічурынцам? Выходзіць, нам трэба ганарыцца табой? Чуеш, маці, які ў нас сынок?

Вера. У нас ужо ўсе ведаюць.

Майя. Барабанаў ужо сфатаграфаваў яго. У газеце будзе.

Сеня. Усё добра, толькі трэба новы здымак.

Аляксей Мітрафанавіч. Табе, паважаны фотааматар, хацелася б, каб усё ішло, як па масле. Але ў жыцці не заўсёды так бывае. Справа, Барабанаў, не толькі ў тым, што ягады на тваім здымку падобны на шышкі.

Стук у весніцы. Бацька, маці і Ліда смяюцца.

Ніна Фёдараўна. Калі ласка.

Аляксей Мітрафанавіч. Цяпер адбою не будзе. Во што значыць — слава!

Уваходзіць Валодзя з клеткай. У клетцы — трусяняты.

Валодзя. Тут Гусевы жывуць? Добры дзень!

Барабанаў. Цябе тут толькі не хапала з тваімі трусянятамі.

Валодзя *(убачыўшы Толіка)*. Ведаеш, Толік, я сур'ёзна падумаў і вырашыў таксама вырошчваць вінаград. Ты мне памажы. Вось я табе ў падарунак прынёс. *(Ставіць клетку на стол.)* А ты мне падары вінаградныя саджанцы.

Барабанаў. Ад гэтых трусянят мне няма куды дзецца.

Аляксей Мітрафанавіч *(да Валодзі)*. Пачакай, хлопчык, вінаградныя саджанцы ў цябе будуць. А падарункаў Толіку не трэба даваць, ён іх не заслужыў. *(Да Толіка.)* Пра што ж ты раскажаш у Доме піянераў, якім сваім вопытам падзелішся?

Толік маўчыць.

Вера. А яму і не трэба асабліва рыхтавацца. Ён проста раскажа, як вырошчваў гэты вінаград.

Аляксей Мітрафанавіч. Сядайце, дзеці.

Дзеці рассаджваюцца наўкруг стала. Ніна Фёдараўна кладзе вінаград на талерку, частуе рабят.

Аляксей Мітрафанавіч *(да Толіка)*. Сядай і ты. Чаго стаяць? У нагах праўды няма.

Толік садзіцца за стол, апускае галаву.
У весніцах паяўляецца Юрка Шэршань.

Юрка. Гэта, відаць, тут?

Аляксей Мітрафанавіч. Заходзь, хлопчык, заходзь. Табе, мусіць, трэба мічурынец-аматар Толік Гусеў?

Толік. Гэта ён па мяне прыйшоў, каб ісці на матч.

Аляксей Мітрафанавіч. Паспееце. Сядай, хлопчык, частуйся!

Юрка *(падыходзячы да стала)*. Гэта чорны салодкі? Ого! *(Бярэ гронку і есць.)*

Аляксей Мітрафанавіч. Вось што, дзеці. На жаль, я вас павінен расчараваць. Гэты вінаграднік, што перад вамі, заклаў мой бацька, Толікаў дзед, Мітрафан Ціханавіч адразу пасля вайны. Тры гады таму назад ён пераехаў да малодшай дачкі ў Мінск. Вінаграднік даглядае ўся наша сям'я: я, жонка і асабліва наша Ліда, вучаніца шостага класа. А Толік вінаграднікам зусім не цікавіцца. Якім чынам ён стаў мічурынцам, я не ведаю...



Вера. Толік прынёс гронку вінаграду, частаваў нас і сказаў, што сам вырасціў. Так, Толік?

Ніна Фёдараўна. Чаго ж ты, Толік маўчыш? Праўда гэта ці не? Адказвай.

Толік не адказвае.

Вера. У Доме піянераў будуць яго чакаць. Ты, значыць, Толік, падвёў і нас, і іх.

Валодзя. Паспяшаліся і — сораму набраліся... Паказаў нам Толік гронку вінаграду, а мы і паверылі, што ён мічурынец.

Аляксей Мітрафанавіч. Нічога, дзеці, не зробіш. Гэта будзе нашаму Толіку навукай, як не трэба маніць. *(Да Валодзі.)* А ты пачакай, я табе саджанцаў дам. Бачу, што ты хлопчык сур'ёзны.

Сеня. Як мне не шанцуе! Прапаў такі цудоўны эцюд!

Заслона.

# АЧУНЯЎ

**Дзеючыя асобы:**

Толік — важаты звяна.
Косцік.
Жэня.
Ядзя, Света, Ромка, Валерык — піянеры звяна.

**Сцэнка першая**

Па лясной паляне ідзе піянерскае звяно. На плячах у дзяцей рукзакі, у руках — кошыкі, вузельчыкі, вуды. У Светы сумка з чырвоным крыжам. Апошнім клыпае рослы хлопчык — Жэня. Цягне за вяроўку звязаныя коўдры. Раптам садзіцца на іх.

Жэня. Вы як хочаце, а я аб'яўляю прывал. *(Усе паварочваюцца і спыняюцца.)*

Косцік. Бяда з ім... Сотню крокаў зрабілі, і зноў прывал.

Толік. Што з табой, Жэня?

Жэня *(здымае чаравік, ссоўвае шкарпэтку, пад ёй — яшчэ адна. Здымае і яе, разглядвае пятку)*. Бачыш, намуляў. З гэтым не жартуюць. І наогул, дурань я набіты. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Дзве гадзіны цягну гэтыя коўдры. *(Мацае шыю.)* Відаць, і там намуляў. З гэтым не жартуюць.

Толік. Нічога асаблівага. Трохі намуляў пятку. І не дзіўна. Зняў бы хоць адны шкарпэткі.

Жэня. А камары?

Косцік. Праз цябе два дні будзем ісці.

Света. Што ж рабіць?

Жэня *(глядзіць на гадзіннік)*. Самая пара снедаць. Учора начальнік лагера казаў кухару: «На снеданне будуць бліны са смятанай». Можна было адкласці паход.

Косцік. Рыбная юшка смачней за твае бліны.

Ядзя. Чаму ты адразу не сказаў, што не хочаш ісці?

Жэня. А хіба я хацеў?.. Вярнуся! К абеду вярнуся. А можа, там і мама прыедзе, прывязе суніц. *(Надзявае шкарпэтку, другую хавае ў кішэню.)* Бярыце свае коўдры. А ты, Толік, аддай мае грошы.

Ядзя. Жывяце з ім у адной палатцы і не ведаеце, які гэта мамчын сынок...

Валерык. Няхай ідзе, плакаць не будзем.

Косцік. Падзелім паміж сабой коўдры. Дзве вазьму я.

Толік. *(дастае з кішэні рублі, лічыць)*. Бяры свой.

Жэня. Вось мой, чырвоны ад варэння.

Толік. Бяры. Не хочаш з намі — не трэба. Толькі як ты да лагера дойдзеш? Кіламетраў шэсць цяпер туды.

Ядзя. Мамачка не ведае, дзе ты, машыну не пашле.

Толік. А мы цяпер за цябе адказваем. Можаш заблудзіцца.

Света. Аднаго яго пускаць нельга.

Ядзя. Дык ідзі з ім.

Света. Выдумала!

Косцік. Чаго ж мы стаім?

Жэня *(ціха да Ромкі)*. Бяры і ты свой рубель. Разам пойдзем. У мяне ёсць піражкі з макам.

Ромка. Нясі сам свой кошык. Я са звяном пайду.

Жэня *(зноў разуваецца, паказвае пятку)*. Ну, як я з вамі пайду?



Толік. Света табе перавяжа нагу, босы пойдзеш. А коўдры падзелім.

Жэня. Босы? Яшчэ горш стане. Разумнік гэтакі!

Света дастае бінты.

Ромка. Правільна, Света. Перавяжы нагу.

Жэня. Якая ты медсястра! Яшчэ заражэнне зробіш.

Света. Як хочаш! *(Хавае бінты.)*

Валерык. Ну і тып!

Толік. Рабяты! А каб Жэня, скажам, ранены быў — хіба мы пакінулі б яго?

Ядзя. Якое табе раненне! Пачырванела трохі пятка.

Толік. Я не пра гэта. Але ўявіце, што Жэня ў паходзе звіхнуў сабе нагу...

Косцік. Праўда. У паходзе рознае бывае.

Толік. Зробім насілкі. Панясем яго.

Косцік. Давайце.

Ромка. Ідэя!

Ядзя. Ну і прыдумалі. І так рэчаў многа. Нясі гэткага...

Света. На тое і паход. Усё здарыцца можа.

Галасы. Насілкі! Насілкі! Зробім насілкі!

Косцік дастае з рукзака сякеру, Толік — вяроўку.

Света *(да Жэні)*. Дык перавязаць табе нагу?

Жэня. Не. Я лепш на насілках паляжу. Хутчэй зажыве.

Заслона.

### Сцэнка другая

Лес. Ідзе піянерскае звяно.

Толік. Наперадзе кладка! Стой! Трэба ўдваіх несці насілкі. Чацвёра не пройдуць.

Жэня. Куды мяне цягнеце? Я сам пайду. *(Паказвае на кладку.)* З гэтым не жартуюць.

Ромка *(смяецца)*. Ты ж плаваць умееш...

Жэня. Пусціце!

Толік. Ты паранены! Не ўставай.

Жэня. Ніякі я не паранены. Кажу вам, пятка ўжо не баліць. Глядзіце!

Т о л і к. Дык і што! Ты ўмоўна паранены.
Ж э н я. Няхай цяпер хто другі будзе ім.
Я д з я. Разумненькі!
Т о л і к. Перанесці параненага цераз кладку — гэта галоўнае. Трэба асцярожна.
Ж э н я. Думаеце, спалохаўся? Нясіце.
К о с ц і к. І панясем?
Т о л і к. Не, перадумаў: зробім тут прывал.
К о с ц і к. Рыбы наловім. *(Рыхтуе вуды.)*
Р о м к а. І я з табой.
К о с ц і к. І не думай. Рыбу ўсю разгоніш. *(Бяжыць.)*

Я д з я рассцілае на траве абрус. Р а б я т ы дастаюць яду. Ж э н я, седзячы на насілках, корпаецца ў сваім кошыку. Дастае слоік з варэннем, піражкі. Хоча ўстаць.

Т о л і к. А ты ляжы! Мы табе паднясем. *(Паказвае на яду.)*
Ж э н я. Хопіць ужо. З вамі хачу есці. І рубель бярыце. *(Да Толіка.)* На!
Т о л і к. А ну, хлопцы! Паднясем яго на насілках сюды.
Ж э н я. Я сам!
Т о л і к. Нельга.
С в е т а. Ты ўмоўна паранены.
Ж э н я. Будзь сама ім, калі табе гэта падабаецца.

Хлопцы бяруцца за насілкі. Паяўляецца К о с ц і к.

К о с ц і к. А колькі суніц на палянцы! Хутчэй за мной! *(Знікае.)*

Я д з я, Р о м к а, В а л е р ы к кідаюцца ўслед за Косцікам. Ж э н я ўстае, бярэ чаравік.

Т о л і к. Жэня, ляжы. *(Да Светы.)* Застанешся з хворым. Адказваеш за яго.
Ж э н я *(кідае рубель, выцягвае з кішэні шкарпэтку)*. Усё праз цябе, чортава шкарпэтка! *(Кідае яе.)*
С в е т а. Ты, Жэня, не злуй. Хутка нам суніц прынясуць.
Ж э н я *(абуваецца)*. Не трэба мне. Я сам хачу набраць. Усё. Больш не лягу. *(Ходзіць ля насілак.)* Зусім не баліць нага, не баліць. *(Бегае.)* Бачыш? Бачыш?
С в е т а. Што ты робіш? Ты мяне падводзіш! Ты паранены. Табе нельга хадзіць. Зараз нашы вернуцца.
Ж э н я. Пабягу на рэчку да Косціка.
С в е т а. Па-харошаму прашу. Ну, паслухайся. Ты хворы,



я — сястра. Я павінна пра цябе клапаціцца. Хочаш, табе катлетку прынясу, сыру?
Ж э н я. Ну, добра, давай. Але і маіх піражкоў пакаштуй. *(Абодва ядуць.)* А як тут добра. Ветрык такі прыемны. Ужо не так горача стала.
С в е т а. Сонца заходзіць.
Ж э н я. Пайду.
С в е т а. Не трэба. Сядзі.
Ж э н я. Сядзець больш не буду. Пайду ці па ягады, ці на рэчку да Косціка.
С в е т а. Не пушчу.
Ж э н я. Не пусціш? Ну дык вось: я ўмоўна хворы. У мяне тэмпература. Прыкладзі руку да ілба. Піць хачу!
С в е т а. Пацярпі. Зараз нашы прыйдуць. Тады.
Ж э н я. Я цяпер хачу. Пабягу на рэчку.
С в е т а. Не, не пабяжыш.
Ж э н я. Тады сама прынясі. Ты ж медсястра.
С в е т а. А ты мяне падманіш.
Ж э н я. Там будзе відаць...
С в е т а. Ну, глядзі. Пабягу. *(Бярэ кацялок і знікае.)*
Ж э н я. Гэта мне і трэба. *(Бяжыць.)*

Паяўляюцца Т о л і к, Я д з я, Р о м к а і В а л е р ы к з суніцамі.

Г а л а с ы. Дзе ж яны? Што здарылася?
Я д з я. Не вытрываў. Збег.
Т о л і к. Хворы ачуняў?
С в е т а *(прыбягае з кацялком)*. Дзе ён?
Я д з я. Збег твой хворы.

Паяўляецца К о с ц і к з рыбай на прутку. За ім Ж э н я з вядром.

К о с ц і к. Сказаў: юшка будзе!
Т о л і к *(да Жэні)*. Ну, хворы, бяры суніцы і лажыся. Пойдзем у вёску. Там у нас будзе канцэрт самадзейнасці. *(Да Косціка.)* Там і юшку зварыш.
Ж э н я *(збірае коўдры, звязвае іх і кладзе сабе на плячо)*. Я панясу.
Я д з я. Даўно б так.

Звяно з песняй ідзе далей.

З а с л о н а.

# НАШ КВАРТЭТ

**Дзеючыя асобы:**

Віця — вучань 6-га класа (прыехаў з Мінска на канікулы).
Сёма — стрыечны Віцеў брат (вучань мясцовай школы).
Ната — важатая піянерскага звяна.
Коля, Міша, Ізя, Геня — удзельнікі квартэта.
Аркадзь Піліпавіч — настаўнік геаграфіі (прыехаў на адпачынак).

Дзея адбываецца летам у мястэчку.

**Сцэна першая**

Двор. Ната, Ізя, Міша, Коля і Геня развучваюць «Квартэт» Крылова. Стаіць бязладны шум інструментаў. Грыміць барабан. Шум заглушае словы Мартышкі: «Чакай, браткі, чакай!» Музыка абрываецца.

Ната *(да Гені)*. Не, не, не! Ну, куды гэтаварта? Сам падумай: хіба ж так іграюць малпу? Ты ж правал̈іш нас на алімпіядзе...

Геня. Ну, добра, добра. Я буду больш крыўляцца. *(Дэкламуе.)* «Чакай, браткі, чакай!» — крычыць Мартышка.

Міша. Ой, што ты: «крычыць Мартышка» — гэта ж словы аўтара. Іх жа Ната павінна гаварыць!

Ната. І заўсёды ты забываешся. Што ж гэта будзе, калі ты на алімпіядзе скажаш словы аўтара?

Коля. Самую вялікую ролю іграе, а ўсё ёй мала. А я вось сяджу казёл-казлом. Ну і ролю ж мне выбралі: мээ-э... мэ-э...

Ізя. Пачынаецца. Ён ужо плача. Вось і ў Асла амаль няма слоў. А я маўчу.

Ната. Цішэй, рабяты, цішэй. Будзем рэпетыраваць. Геня — на скрыпцы, Коля — на кантрабасе, Міша — да барабана, Ізя — альт у рукі. *(Пачынаюць іграць.)*

Ната. Геня, цяпер ты ўжо залішне блазнуеш!

Геня *(пакрыўджана)*. Ці крыўляйся, ці не крыўляйся — усё адно табе не падабаецца. Зусім не буду іграць. *(Выбягае.)*

Ната. Геня, Геня!..

Коля. Няхай бяжыць. Падумаеш артыстка! Я буду іграць Мартышку.



Ната. Ой, і што ж гэта будзе з нашым драмгуртком?! Зусім як у квартэце:

Як, сябры, вы не садзіцеся,
А у музыкі не гадзіцеся.

І так Салаўя ў нас не хапае, а цяпер і Мартышка ўцякла.

Міша. Мартышку мы другую знойдзем. Гэта не бяда. Крыўляцца кожны ўмее. А вось Салаўя дзе возьмем? Хто ж у нас другі ўмее так заліваццa салаўём, як Сёма?

Ната. Пра Сёму забудзьцеся. У яго пераэкзаменоўка па геаграфіі. Што ж гэта будзе з нашым квартэтам? А цяпер і Мартышкі няма...

Коля. Ведаеш што, Ната, у мяне прапанова.

Ізя. Ведаем тваю прапанову. Ты хочаш іграць Мартышку.

Коля. Не, не! Я буду іграць Казла і... Мартышку. Мартышку іграю — тут сяджу. Казла іграю — туды перабягаю. Ёсць такія артысты.

Геня *(убягаючы)*. Я перадумала!

Коля. Няма чаго перадумваць! Ты ўцякла. Збегла!

Геня. Вось як! Дык знай жа: я нікуды не пайду. Буду іграць.

Ната. Цішэй, рабяты, цішэй. Геня — на скрыпцы, Коля — на кантрабасе, Міша — да барабана, Ізя — альт у рукі. Абвяшчай, Коля!

Коля. Драмгурток нашага атрада выступіць з інсцэніроўкай «Квартэта» Крылова.

Ната *(аўтар)*.

Свавольніца-Мартышка,
Асёл,
Казёл
Ды касалапы Мішка
Надумалі сыграць квартэт.
Дасталі нот, баса, альта, дзве скрыпкі
І селі на лужок пад ліпкі
Дзівіць сваім мастацтвам свет.
Ударылі ў смычкі, стараюцца
як след,
А толку а ні крышкі...

Мартышка.

Чакай, браткі, чакай!

Аўтар.

Крычыць Мартышка.

Мартышка.

Не выйдзе музыкі —хоць як бы ні хацелі,
бо вы не так паселі!
Ты з басам, Мішка, сядзь
супроць альта,
Я, прыма, сяду супроць вторы,
Тады ўжо пойдзе ўсё не так:
У нас заскачуць лес і горы.

Аўтар.

Расселіся і пачалі квартэт. Ён усё ж такі на лад не йдзе.

Асёл.

Чакайце, я знайшоў сакрэт!
Напэўна мы паладзім,
Як радам сядзем.

Аўтар.

Паслухалі Асла: паселі чынна ў рад.
А ўсё ж такі квартэт не ідзе на лад.
Вось зноў — каб даць якую раду —
Пайшлі у іх нарады,
Каму і як сядзець.
Аж здарылася Салаўю на шум іх прыляцець. *(Паўза.)*

Ната *(уздыхнуўшы)*. А Салаўя і няма.

Коля *(сумна спявае)*. Салавей-саловушка, буйная галовушка...

Усе *(таксама сумна)*. Ты звіні, звіні, звіні, гора разгані (2 разы).

Коля. Няма Салаўя...

Насвістваючы салаўём, убягае Сёмя; з ім — Віця.

Сёма. Вось ён Салавей. На шум ваш прыляцеў! *(Зноў свішча.)* А вось гэта Віця. Мой стрыечны брат. З Мінска прыехаў. Ух, які артыст! *(Шэптам.)* У Мінскім палацы піянераў выступаў. На ўсё лета прыехаў.

Ната. Дык можа твой стрыечны брат у нас сыграў бы якую ролю?

Сёма. Калі вы мяне не прымеце ў гурток, дык мой стрыечны брат у вас не будзе іграць. Праўда, Віця?

Віця *(не адказваючы брату)*. Якія п'есы вы ставіце?

Ната. «Квартэт».

Віця. А-а... Гэта ж байка Крылова, якую вучаць у пятым класе. Але калі вы так хочаце, я магу ўзяць у вас ролю.

Сёма. Без мяне? Брат ты мне ці не?

Віця *(салідным тонам)*. Але гледзячы, канечне, якую ролю вы мне дадзіце. Абы-якую ролю я не вазьму.



Ната. Салаўя ты сыграў бы? У нас няма Салаўя.

Віця. Я здолеў бы... Але Сёма для гэтай ролі болей падыходзіць. Я іграю драматычныя ролі.

Ната. Ведаеш што: ірай аўтара. Я штосьці не падыходжу для гэтай ролі. Тут патрэбен хлопец!

Міша. Вось гэта роля!..

Ізя. А колькі слоў!.. А грым які! Сівы парык, бакенбарды. Крылоў!

Сёма. Віця, брат ты мне ці не? Калі ты будзеш іграць, я з табою гаварыць не буду. Мяне ж яны не бяруць.

Ната. Калі б ты не ленаваўся рыхтавацца да асенніх іспытаў, мы цябе ўзялі б. Але ж ты толькі бегаеш цэлымі днямі. Разумееш, Віця, у яго пераэкзаменоўка па геаграфіі. А ў цябе што па геаграфіі?

Віця. У мяне, разумеецца, па ўсіх прадметах «выдатна».

Ізя. Ну ясна, ён жа з Мінска.

Коля. У Мінску таксама ёсць дрэнныя вучні. Я чытаў ў піянерскай газеце.

Міша. Па ўсіх прадметах «выдатна»! Дык у цябе ж пахвальная грамата?

Віця. Так... хаця... не. Я зусім выпадкова атрымаў «добра» па алгебры.

Ната. Але ж па геаграфіі ў цябе «выдатна»? Вось што, Віця, калі б ты памог Сёму падрыхтавацца па геаграфіі ды прымусіць яго ўзяцца за справу, ён мог бы іграць Салаўя.

Віця. З вялікай ахвотаю. Я не супраць. Да мяне заўсёды прымацоўваюць слабых вучняў.

Ната. Возьмешся, Сёма, за работу?

Сёма. Ды ўжо ж, вазьмуся. Толькі няхай хутчэй мяне навучыць.

Коля. Цяпер у нас заскачуць лес і горы! *(Сёма свішча салаўём, усе ўдзельнікі квартэта спяваюць, іграючы на інструментах):*

З кнігай дружылі,
Дружылі з пяром.
Цяпер мы іграем,
Танцуем, пяём.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет!

Будзем выдатна
Вучыцца, дружок,
Прымем цябе мы
У вясёлы гурток.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет!

**Сцэна другая**

У лесе каля гамака сядзіць Віця. Ён перагортвае падручнік па геаграфіі.

Віця. Тоўстая кніга. Ох, якая праграма па геаграфіі! Увесь свет! Еўропа, Азія, Амерыка, Афрыка, Аўстралія і гэтак далей... І няма чаго тут дзівіцца, што я атрымаў «дрэнна». Ну ж і настаўніка знайшлі брату майму! Ха-ха-ха! Вось калі б даведаліся... *(Чуваць свіст салаўя.)*

Сёма *(здалёк)*. Го-го-го! Віця, дзе ты?

Віця. Я тут. *(Убягае Сёма. Спявае.)*

Я зімой вучыцца, вучыцца
Дужа не любіў.
А з сняжынак мяккіх, мяккіх
Чорцікаў ляпіў.
Гэй, гэй, гэй,
Сёма-Салавей!
Атрымаў работку, работку —
Увосень здаваць...
Дзе ж тут мне да кніжкі —
Хочацца гуляць!
Гэй, гэй, гэй.
Сёма-Салавей!
Я хачу ў артысты, у артысты,
Цёхкаць салаўём.
Кажуць: гультаям мы
Ролі не даём.
Гэй, гэй, гэй,
Сёма-Салавей!

Сёма. Ну, Віця, вучы мяне. Ды толькі хутчэй навучы.

Віця. Увесь год лынды біў, а цяпер ты адразу хочаш вучаным стаць. Разумнік ты. Вось я ўвесь год вучыў ды вучыў, і то, бывае, што не на ўсё адкажу. Скажы ж ты мне, які клімат у Афрыцы?

Сёма. Ну, гэта вядома. Гарачы! Ведаеш, як там загараюць? Неграў бачыў?

Віця. Гарачы. Гэта ўсякі ведае. А вось, як ён называецца такі клімат? Запамятай: рэзка кан-ты-ментальны.

Сёма. Ну, добра. Запішу: клімат у Афрыцы рэзка кантынентальны.

Віця. Ха-ха-ха! Кантынентальны! Канты-мен... Чуеш? «мен»... Кантыментальны. Ад слова кантымент.

Сёма. А наш настаўнік кажа «кантынент».

Віця. Параўнаў. Вось наш настаўнік! Ого, Аркадзь Пілiпавіч! Ён кожнае лета прыязджае сюды на дачу. У гэтым годзе толькі нешта няма яго. Быў бы ён — дык расказаў бы табе, як я вучуся. Ну, добра, спытаюся я ў цябе пра жывёл. Дзе знаходзяцца жывёлы?

Сёма. Дзе? Усюды яны знаходзяцца.

Віця. Ну і адказ... Жывёлы знаходзяцца на паверхні зямлі. Чуеш?

Сёма. А крот?

Віця. Дай скончыць. Апрача, вядома, кратоў.

Сёма. А суслікі?

Віця. Дай жа скончыць! І суслікаў.

Сёма. А птушкі ў паветры?



Віця. Птушкі не жывёлы. Птушкі — гэта птушкі. Ды і не ў паветры яны жывуць, а толькі прагульваюцца крыху па небе. А жывуць яны ў гнёздах. А гнёзды дзе?

Сёма. На дрэвах.

Віця. А дрэвы дзе знаходзяцца?

Сёма. На зямлі.

Віця. Значыць?

Сёма. Значыць, жывёлы знаходзяцца на паверхні зямлі.

Віця. Правільна, гэтак жа, як і людзі. Вось я жыву ў Мінску на пятым паверсе. Што ж скажаш, што я жыву ў паветры?

Сёма. Не.

Віця. Ну, дык запішы ж: людзі, як і жывёлы і птушкі, знаходзяцца на паверхні зямлі. Апрача?

Сёма. Кратоў і суслікаў.

Віця. Запісаў? Цяпер пагаворым пра асобныя віды жывёл. Ну, возьмем... скажам... напрыклад, малпу, мартышку. Дзе яна знаходзіцца.

Сёма. Гэта я ведаю. Мартышкі жывуць у густых лясах. Яны любяць скакаць з дрэва на дрэва.

Віця. Правільна. Якія лясы самыя густыя?

Сёма. Самы густы лес — гэта тайга.

Віця. Правільна. Запішы: малпы любяць знаходзіцца ў тайзе.

Сёма. Ой, Віця, першы раз пра гэта чую!

Віця. Запісаў? Яшчэ пытанне.

Сёма. Віця, можа хопіць на сёння?

Віця. Не, не. Яшчэ пытанне. Скажы ты мне, у які акіян упадае, скажам, напрыклад... ну, Каспійскае мора?

Сёма. Каспійскае мора? Здаецца, нікуды.

Віця. Ха-ха-ха! Нікуды. Пакажы карту... так... на гэтай карце не відаць. Гэта, мусіць, нейкая старая карта...

Сёма. Як жа мне запісаць?

Віця. Запішы: Каспійскае мора ўпадае ў адзін з акіянаў.

Сёма *(запісваючы)*. Запытаюся ў Наты. Ты, здаецца, настаўнік памыліўся. Ну, хопіць. Галава трашчыць. Пойдзем купацца.

Віця. У вашай рачулцы не купаюся. Вось у нас у Мінску рака! Берагу не відаць... Мора! Я неяк з прыяцелем катаўся на байдарцы, дык хваля нас як падкінула... Ух!..

Сёма. Дык не пойдзеш, настаўнік? А я пабег. *(Пайшоў.)*

Віця. Ух, замарыўся. Так, рознае «дрэнна» бывае. У мя-

не вось па геаграфіі «дрэнна», а ў Наты «выдатна». А хто з нас лепш ведае — гэта яшчэ трэба спытацца. Пайшоў пытацца ў Наты. Ну і няхай. Можа я памыліўся. Ды ў каго памылак не бывае? Я толькі перагарну геаграфію і «выдатна» атрымаю, разумеецца. І буду ў Палацы іграць самыя вялікія ролі. Ой, хто там ідзе? Ды гэта ж — Аркадзь Піліпавіч... Прыехаў-такі... А я... а я думаў... Схаваюся. Ён сюды ідзе... Уцяку!..

Аркадзь Піліпавіч *(углядаючыся)*. Так, гэта ж Віця! Чакай, Віця. *(Падыходзіць з гамаком.)*

Віця. Аркадзь Піліпавіч! Вы... значыцца... прыехалі...

Аркадзь Піліпавіч. Але, як бачыш. Я тут на дачы. І ты тут. З бацькамі?

Віця. Не, я адзін у цёткі.

Аркадзь Піліпавіч. Ага... Ну, як з тваімі пераэкзаменоўкамі? Як з геаграфіяй?

Віця.. З геаграфіяй у мяне справы ідуць на лад. У мяне тут стрыечны брат, Сёма. Ён добра ведае геаграфію. Толькі што з ім вучылі.

Аркадзь Піліпавіч. Гэта добра. Заходзь да мяне разам з тваім стрыечным братам. Я вам памагу. Ну, бывай, Віця. *(Выходзіць.)*

Віця. Бывайце. *(Уздыхае.)* Усё! Ні квартэта табе, ні ролі. Цяпер даведаюцца, які я выдатнік. Трэба зараз жа ўзяцца за геаграфію. Увесь падручнік перачытаю. *(Мармыча.)* У параўнанні з іншымі часткамі свету, Еўропа невялікая. Па плошчы яна займае толькі 1/15 усёй сушы. Але ў Еўропе жыве 1/5 усяго чалавецтва. *(Пазяхае.)* Не лезе ў галаву... Як матэматыка. Адна пятнаццатая, адна пятая... Паляжу ў гамаку. *(Мармыча.)* Няма квартэта, няма ролі... Бакенбарды... Асёл, Казёл ды касалапы Мішка... пераэкзаменоўка... *(Засынае.)*

Сёма *(вярнуўшыся з рэчкі)*. Ш-ш-ш... Мой настаўнік геаграфіі спіць. *(Грозячы яму пальцам.)* А Каспійскае мора нікуды не ўпадае... Пайду рабят паклічу. *(Выходзіць.)*

Віця спіць і сніць сон: іграе горн, б'е барабан... шум інструментаў. Уваходзіць Асёл. Верхам на Асле едзе Віця. За aслом — Мішка, з барабанам, Мартышка са скрыпкай, Казёл з віяланчэллю.

Віця *(да Асла)*. Цягнешся. Калі ж мы на алімпіяду паедзем? Хутчэй, Асёл! Паварачвайся! А вы, Казёл ды касалапы Мішка, ды ты, Мартышка! Чаго брынчыце? Хутчэй, Асёл! *(Б'е яго.)*



Асёл. Мяне біць? Далей — ні шагу.

Віця. Ды што ты, з глузду з'ехаў! Мы ж на алімпіяду спознімся. У Палацы ўжо ўсе чакаюць мяне.

Асёл. Сказаў — не пайду!

Віця. Што ж гэта будзе? Гэтулькі часу рыхтаваўся, а цяпер праз цябе, Асёл, не буду ўдзельнічаць...

Асёл. Не ведаеш ты майго характару. Я свайму слову гаспадар.

Казёл. Ты праўду кажаш. Хто ён такі, што яго везці трэба?

Віця. Як хто? Я аўтар. Без мяне квартэта не будзе.

Мартышка *(перадражніваючы)*. Я аўтар!.. Хлус ты, а не аўтар. *(Гаворыць да ўсіх.)* Вы ведаеце, што гэты аўтар пра мяне выдумаў? Што я жыву... ха-ха-ха!.. У сібірскай тайзе!.. Каля полюса. Ха-ха-ха!..

Мішка. Хо-хо-хо!..

Казёл. Хе-хе-хе!..

Асёл. Хі-хі-хі!..

Казёл. Так і відаць, што ў яго пераэкзаменоўка па геаграфіі.

Мішка. Я ўжо даўно здагадваўся, што ён не выдатнік.

Віця. Усе на мяне! І ты, Мішка!

Мішка. Я люблю праўду. Ты не выдатнік...

Мартышка. Такі хлус.

Асёл. А які гультай! Лішняга кроку не ступіць.

Казёл *(насмешліва)*. Аўтар!

Мартышка. Хадзем на алімпіяду без яго. Менш сораму будзе.

Мішка. У цябе пераэкзаменоўка. Не вучышся ты, не рыхтуешся.

Віця. Хто гэта вам сказаў?

Усе. Аркадзь Піліпавіч. Твой настаўнік геаграфіі.

Мартышка. Асёл, скінь яго!

Асёл скідае Віцю. Звяры знікаюць. Святлее. Чуваць свіст Салаўя. Віця вываліўся з гамака. Праціpae вочы. Каля яго стаіць Сёма.

Сёма. Сюды, рабяты! Вось ён — мой настаўнік. *(Дзеці і Аркадзь Піліпавіч падыходзяць да Віці.)*

Ната *(чытае з Сёмавага сшытка)*. «Клімат ў Афрыцы рэзка кантыментальны...» У дужках: «кантыментальны ад слова кантымент...»

Усе *(смяюцца)*. Кантыментальны... Кантымент... Ха-ха-ха!

Н а т а. Ш-ш-ш... Цішэй. «Каспійскае мора ўпадае...» Ха-ха-ха! Ох, не магу...

К о л я *(бярэ сшытак, чытае)*. «Каспійскае мора ўпадае ў адзін з акіянаў.»

У с е *(смяюцца)*. Вось дык географ! Выдатнік...

Н а т а. Цішэй, цішэй. Яшчэ адно вынаходства. «Людзі, як і жывёлы і птушкі, жывуць на паверхні зямлі. Апрача кратоў і суслікаў.» *(Смех.)*

К о л я. Вось дык вучоны... Вынаходстваў колькі!

С ё м а. А мне ён хваліўся: «Быў бы Аркадзь Піліпавіч, ён расказаў бы, як я вучуся».

У с е. Раскажыце, Аркадзь Піліпавіч, раскажыце!..

А р к а д з ь  П і л і п а в і ч. Што ж расказваць тут? Як ён геаграфію ведае, вы самі бачыце. А вось чаму ён дрэнна вучыцца, гэта я вам раскажу. На ўроках няўважлівы, затое вельмі часта бегаў на рэпетыцыі... І ў школе, і ў Палацы, і клубе нейкім выступаў. Гэта ж праўда, Віця?

В і ц я. Праўда.

А р к а д з ь  П і л і п а в і ч. А хочаш у гуртках выступаць — вучыся добра.

Н а т а. У нас пра гэта і песенька такая ёсць. Самі напісалі.

А р к а д з ь  П і л і п а в і ч. Вось як! А ці не можна б мне паслухаць?

У с е. Калі ласка.

З кнігай дружылі,
Дружылі з пяром.
Цяпер мы іграем,
Танцуем, пяём.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет!

Будзеш выдатна
Вучыцца, дружок,
Прымем цябе мы
У вясёлы гурток.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтай музыкай
Здзівім мы свет!

З а с л о н а.

## ЛЯ ПТУШНІКА

**Дзеючыя асобы:**

Д з е д  Я к і м — калгасны вартаўнік.
Т о н я — маладая птушніца.
П а ў л і к, Ф е д з я, К с е н я — піянеры.



Асенні вечар. З птушніка выходзіць Т о н я з курыцай у руках. Паглядзела на яе і пачынае прывязваць да лапкі матузок.

Т о н я. Ах ты, нягодніца! Навошта ты б'еш сваіх сяброўак? Жыцця ім няма ад цябе. Гэтакая прагавітая! З дзюбы гатова вырваць. Вось пасаджу цябе ў хлеўчык і прывяжу там. Пажыві крыху на падножных харчах. *(Заносіць курыцу за птушнік і вяртаецца. Закукарэкаў пеўнік. Тоня глянула на гадзіннік і стала паспешліва зачыняць дзверы. У яе з рук выпаў ключ.)* Дзяўчаты ўжо напэўна ў клубе. А я ніяк не выберуся. *(Падымае ключ і замыкае.)* Нарэшце-такі... *(Глядзіць па баках.)* Дзе ён? Вечна перад вачыма тырчыць. А калі трэба — дык яго няма. *(Крычыць.)* Дзед Якім! Дзед Якім! Вазьміце ключ! *(За сцэнай чуваць голас дзеда: «Ключ, ключ!»)*

Уваходзіць д з е д  Я к і м з курыцай у руках.

Д з е д  Я к і м. Табе, Тоня, толькі адно ў галаве — ра-дыё-лы... *(Паказвае на курыцу.)* Чыя?

Т о н я. Пакажыце хвост.

Д з е д  Я к і м. На, паглядзі!

Т о н я *(паглядзела, збянтэжана)*. А дзе вы яе знайшлі?

Д з е д  Я к і м. А ты адказвай: твая ці не?

Т о н я. Няма калі з ёю валаводзіцца. Наце ключ. Пусціце яе ў птушнік. А потым разбярэмся, чыя. Калі ніхто не спытае, значыць, наша.

Д з е д  Я к і м. Эх, Тоня, табе даручылі такую гаспадарку, а ты...

Т о н я. Даручылі і не памыліліся. Не такія ўжо дрэнныя справы на птушніку. *(Вымае з кішэні фартуха блакнот, раскрывае яго.)* Вось глядзіце, дзед Якім. Сёння здала 229 яек. Значыць, яшчэ 22 курыцы знесліся. За апошнія два тыдні не прапала ніводная курыца. Куры чысценькія, у птушніку парадак. За добры догляд мяне на злёт пасылаюць.

Д з е д  Я к і м. Ранавата табе на злёт.

Т о н я. Гэта не ваша справа, дзед Якім. Вы ж яшчэ не старшыня калгаса, а толькі... вартаўнік. І чым кумак лічыць...

Д з е д  Я к і м *(перабівае яе)*. Вар-таў-нік? Як толькі загарыцца першая зорка, я станаўлюся галоўным гаспадаром. Разумееш?

Т о н я. Сягоння, дзед Якім, вы нешта рана гаспадарыць пачалі. *(Глядзіць на неба.)* Яшчэ ніводнай зоркі няма. Вы лепш ноччу часцей заглядвайце сюды. Я ж вам ужо казала, што нехта харч крадзе.

Дзед Якім. Лапочаш ты, як сарока. Харч, харч! Каму патрэбен твой харч?

Тоня. А хоць бы і свінаркам. Лішні раз парасят пакормяць, каб у вазе прыбылі. Ім гонар. А мне што?

Дзед Якім. Што табе? А ты лепш птушак глядзі. Сваіх курэй не пазнаеш. Вось бачыш, метка, на правай назе зялёны матузок?

Тоня *(выхоплівае з рук дзеда курыцу і кідае яе праз акно ў птушнік)*. Вось і ўсёй гаворкі. Столькі курэй на птушніку — хіба ўсіх запомніш?

Дзед Якім. А навошта ты школьнікаў прагнала, маю ўнучку Ксеню? Яны ж бы табе памаглі.

Тоня. Няма калі з імі валаводзіцца. Сама зраблю. Мне іх дапамога не патрэбна. Паспрабавала аднойчы... папрасіць... дык яны курэй павыпускалі... Прыйшлося потым вакол клуба бегаць ды лавіць... Усе хлопцы смяяліся... Сораму колькі было...

Дзед Якім. Сорам дрэнна працаваць.

Тоня. Што вы чаўпіцё адно і тое — дрэнна працую, дрэнна працую... Няпраўда гэта. А ну вас! *(Выбягае.)*

Дзед Якім. Уцякла ра-ды-ё-ла... Клуб яшчэ зачынены, а мяне крытыкуе: «Яшчэ зоркі няма». *(Глядзіць на неба.)* Сапраўды, яшчэ ранавата. І чаго мяне панесла? А ўсё з-за белай нясушкі. Сустрэў яе за млынам. Адразу пазнаў. У мяне вока спрактыкаванае. Усё на ўліку. *(Перадражнівае Тоню.)* «Толькі вар-тау-нік». *(З гонарам.)* Правільна! Вартаўнік! А вартаўнік, любка, правая рука самога старшыні. *(Глядзіць на неба.)* Да зорак паспею яшчэ чаю выпіць. *(Выходзіць.)*

Паўза. Чутна, як у птушніку кудахчуць куры. Заспяваў пеўнік. Пад павецню з пустой кадушкі выглядвае Паўлік. Пераканаўшыся, што дзед Якім пайшоў, вылазіць і свішча. Крадком да яго падыходзяць Федзя і Ксеня.

Паўлік. Не марудзіць.

Усе знікаюць, але ў хуткім часе зноў паяўляюцца. Ксеня ў адной руцэ трымае вядро з варанай бульбай, а ў другой — клуначак. Паўлік і Федзя нясуць вялікія мяшкі. Усё гэта яны ставяць каля сцяны птушніка.

Паўлік. Федзя, падай лесвіцу!

Федзя. Ёсць падаць лесвіцу!

Федзя прыносіць лесвіцу і прыстаўляе да верхняга акна птушніка. Паўлік узлазіць на лесвіцу, глядзіць унутр птушніка. Куры кудахчуць мацней.

Паўлік. Ну, вось і мы. Добры дзень! Добры дзень! Пацярпіце крышку. Спачатку ваш дом прыбяром, потым вячэру



пададзім... Так і ведаў — скразнячок ім зрабіла. Забылася зачыніць акно. За ноч іх так бы праняло... Скразняк у птушніку — не жартачкі. Але нічога. Мы свой парадачак навядзём. Федзя, Ксеня, падайце лісце! *(Рабяты падаюць мяшок, Паўлік высыпае цераз акно сухое лісце.)* Галоўнае для кур — сухі подсціл. Яны любяць корпацца ў сухім. Гэта табе не гусі і не качкі.

Ксеня. А для Тоні, Паўлік, усе птушкі аднолькавыя. Паспрабуй ёй гэта растлумачыць — і слухаць не хоча.

Паўлік *(кідае пусты мяшок)*. Падай другі. *(Федзя і Ксеня падаюць. Паўлік высыпае.)* Усё. *(Кідае пусты мяшок.)* Федзя, за мной!

Федзя. Ёсць, Паўлік, за табой!

Паўлік. А ты, Ксеня, падасі нам вядро. Накормім іх варанай бульбай. Для разнастайнасці. І Тоня не будзе хныкаць, што харч цягаем. А семачкі ім на закуску. Куры лю-бяць паласавацца семкамі...

Ксеня. Толькі семкі, Паўлік, я ім буду даваць.

Федзя. Добра, давай.

Паўлік і Федзя залазяць цераз акно ў птушнік. Ксеня падае ім вядро з бульбай.

Ксеня. Раскідайце так, каб Тоня адразу не ўбачыла.

З птушніка даносіцца голас Паўліка: «Куры адразу ўсё перабяруць». У птушніку запальваецца святло. Чуюцца галасы Паўліка і Федзі: «Цып, цып, цып». Куры кудахчуць.

Паўлік. Глядзі, Ксеня, будзь напагатове!

Ксеня. Я знаю сваю справу. Як накорміце бульбай, паклічце мяне. Я іх семкамі пачастую. *(Злазіць з лесвіцы, складвае мяшкі і хаваецца ў кадушку.)*

Цямнее. З'яўляецца дзед Якім з палкай. Падыходзіць да птушніка.

Дзед Якім. «Толькі вартаўнік».... Вось ужо шаснаццаты год на адказным пасту, а такіх слоў не чуў. Сарока белабокая. «Харч крадуць»... *(Ксеня з трывогай пазірае з кадушкі. Дзед Якім раптам заўважае святло ў птушніку і лесвіцу.)* Ціха... ціха... ціха... *(Шэптам.)* Паклічу людзей... *(Адступае назад, спыняецца.)* Не... не... з поля бою не ўцякаюць... *(Бяжыць у птушнік, хапае лесвіцу, адкідвае яе ў бок, крычыць.)* Хлопцы, акружай птушнік! Сцяпан і Васіль, заходзьце злева! А вы, Паўлік і Федзя, справа! *(У птушніку чуецца прыглушаны смех. З кадушкі паказваецца Ксеня.)* Узяць на мушку кожнае акно! Як толькі хто пакажацца — страляй!

А вы там, куракрады, не варушыцеся! Кладзіцеся на зямлю! Хлопцы, зараджай! *(Стукае палкай па лесвіцы, непрыкметна адступае назад, натыкаецца на кадушку, перакульвае яе. З яе выскоквае Ксеня. У мітусні дзед Якім лёг і крычыць.)* Не здаюся! Не здаюся!

Ксеня. Дзядуля! Дзядуля! Гэта я...

Дзед Якім *(устае)*. Ты, унучка? Адкуль ты ўзялася? Што тут такое робіцца? *(Апамятаўшыся, ціха.)* Бяжы па людзей...

Ксеня. Дзядуля, супакойся, там Паўлік і Федзя.

Дзед Якім. А што яны там робяць?

Ксеня. Гэта ж мы... шэфствуем над птушнікам. Па плану нашай піянерскай двухгодкі... Тоня нас удзень не пускае, дык мы...

Дзед Якім. Цьфу, паганыя! Я ім вушы паадкручваю!

Ксеня. Не трэба, дзядуля. Яны там курэй кормяць, варанай бульбай... А я потым дам ім семак. Вось яны, у мяшэчку...

Дзед Якім. Цьфу, цьфу, радыёла шалапутная. Колькі крыві мне папсавала. *(Садзіцца на перавернутую кадушку.)* Аддыхацца трэба... *(Заўважае мяшкі.)* А гэта што?

Ксеня. Мяшкі з-пад лісця. Мы ў садзе назбіралі... Асвяжылі подсціл у птушніку... Ужо высыпалі...

Дзед Якім. Хопіць, накамандаваўся. Аж у горле перасохла. Каб хоць людзі не пачулі. *(Паволі падымаецца і ідзе да птушніка, адчыняе дзверы.)* Гэй вы, арлы! Нябось, здорава перапалохаліся? Га? Так вам і трэба. Не лезьце без майго ведама. А ну, выходзьце, выдумшчыкі! *(Выходзяць Паўлік і Федзя з пустым вядром, яны ледзь стрымліваюцца ад смеху.)* Смяюцца яшчэ, жэўжыкі! Глядзіце, каб ніводны чалавек не ведаў. Засмяюць. Лесвіцу прыставілі, святло запалілі. Хоць ты ўвесь калгас паднімай на ногі. Я вам, свавольнікі... яшчэ пакажу...

Паўлік. Дык мы ж, дзядуля...

Дзед Якім. Цыц! *(Хоча зачыніць птушнік.)*

Ксеня. Дзядуля, не зачыняй. Семкі ж трэба аддаць...

Дзед Якім. Толькі хутка, лапатуха. Дадумалася ж... Цішком шэфстваваць над птушнікам... Ды яшчэ ад роднага дзядулі хаваецца. *(Пускае Ксеню ў птушнік.)*

Паўлік. А што ж нам рабіць? Мы шэфствуем ужо другі месяц.

Дзед Якім. А я і не ведаў? От шыбельнікі, га?! Гэтак падвесці старога вартаўніка!..



Федзя. Мы не падводзілі... Мы нікога не падводзім...

У птушніку чутно: «Цып, цып, цып... Не дзяўбіцеся, маленькія».

Дзед Якім. Ведаю, ведаю. Толькі чаму ж вы не звярнуліся да мяне адразу? Пабаяліся? Ну, ды хопіць аб гэтым. Прыходзьце, калі не будзе Тоні. Пушчу...

Убягае Тоня.

Тоня. Што тут здарылася? Каго вы збіраецеся пускаць? Куды? *(У птушніку чуваць голас Ксені: «Цып, цып, цыпачкі».)* Хто там у птушніку! *(Да хлопцаў.)* А вас чаго сюды прынесла? *(Да дзеда.)* Што вы мне тут парадкі наводзіце? Колькі разоў я вам гаварыла!.. *(З птушніка выходзіць Ксеня. Хаваецца за дзеда.)* Ах вось яно што! Не буду я адказваць за птушнік! Не буду! Зараз жа пайду і раскажу старшыні калгаса, чым вы тут займаецеся?

Дзед Якім. Так вось адразу і раскажаш? Не даведаўшыся, у чым справа?

Тоня. Раскажу!..

Дзед Якім. Калі на тое пайшло, то слухай. Усю праўду раскажу. Вось ужо другі месяц, штовечар, калі цябе няма на птушніку, Паўлік, Ксеня і Федзя табе памагаюць. Здорава памагаюць. Птушнік чысцяць, подсціл мяняюць, курэй тваіх падкормліваюць. Таму і поспехі ў цябе такія вялікія. І на злёт цябе пасылаюць, можна сказаць, з-за іх...

Ксеня *(з-за дзедавых плячэй.)* Усё гэта праўда, Тоня.

Федзя. Мы, Тоня, і харч курам самі даставалі, і подсціл збіралі...

Паўлік. Ты ж не захацела з намі дружыць... А ў нас абавязацельствы свае, атрадныя... Вось мы і памагалі, як маглі... І не абы-як, а сумленна, па-піянерску...

Тоня *(здзіўлена глядзіць то на дзеда Якіма, то на рабят)*. Я вам гаварыла, дзед Якім, што ў мяне харч хутка расходзіцца? І ў птушніку нешта не так... А вы мне што адказвалі: «Зда-ец-ца. Не можа быць. Табе толькі радыёлы ў галаве». А я і радыёлу слухала, і курэй даглядала, і... *(Пасля некаторага роздуму.)* Як жа я цяпер на злёт паеду? Што я там скажу?

Дзед Якім. Едзь, Тоня, едзь. І скажы людзям, якія ў цябе *(Паказвае на рабят.)* добрыя памочнікі ёсць! Актывісты піянерскай двухгодкі!

Заслона.



# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Бясплатны дадатак да часопіса «Маладосць» № 10 1963 г.